Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 7 (45)

Ліпень 1936 г.

МЕНСК 1936

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту БССР



# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 7 (45)

Ліпень 1936 г.

МЕНСК 1936

# I. АФІЦЫЙНЫ РАЗДЗЕЛ

## Выпіска з пратакола № 35

### Пасяджэння Прэзідыума Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР

*15 чэрвеня 1936 года*

Заслухаўшы даклад начальніка Кіраўніцтва наргасучоту т. Владзімірскага аб выніках праверкі становішча пярвічнага ўчоту і справаздачнасці ў сельсоветах, Прэзідыум ЦВК БССР адзначае, што:

а) не гледзячы на пэўнае палепшанне, у параўнанні з мінулым годам, справы пастаноўкі пярвічнага ўчоту і справаздачнасці сельсоветаў, маецца яшчэ рад сельсоветаў, дзе пярвічны ўчот і справаздачнасць пастаўлены нездавальняюча (Ушацкі, Асіпавіцкі, Дрысенскі, Сенненскі, Талачынскі, Тэрахаўскі і інш. раёны);

б) зусім недапушчальным з'яўляецца факт наяўнасці советаў, у якіх пярвічны ўчот зусім не наладжан (Талачынскі, Кармянскі і Плешчаніцкі местсоветы; Чэрапоўшчынскі, Вяліка-Дольскі і Сарочынскі сельсоветы—Ушацкага раёна, Дукорскі сельсовет—Смілавіцкага раёна і інш.);

в) такое становішча з'яўляецца вынікам недаацэнкі справы ўчоту з боку кіраўнікоў РВК і работнікаў сельсоветаў.

Выходзячы з гэтага, Прэзідыум ЦВК БССР пастанаўляе:

1. Указаць старшыням усіх РВК, асабліва Ушацкага, Асіпавіцкага, Дрысенскага, Сенненскага, Талачынскага, Тэрахаўскага Чаускага і Лельчыцкага раёнаў на адсутнасць з іх боку належнай увагі справе ўчоту ў сельсоветах і прапанаваць у 20-ці дзённы тэрмін праверыць становішча гэтай работы, забяспечыць належнае інструктаванне і сістэматычны кантроль сельсоветаў у мэтах чоткай пастаноўкі ўчоту, згодна існуючых інструкцый, далажыўшы аб выкананні Прэзідыуму ЦВК БССР.

2. Улічваючы недапушчальнасць факта, што па Ветрынскаму Глускаму, Добрушскаму, Заслаўскаму, Крычаўскаму і Лёзненскаму раёнам да гэтага часу не прадстаўлены матэрыялы аб праведзеных праверцы ўчоту ў сельсоветах, абавязаць старшынь паказаных РВК у 6-ці дзённы тэрмін прысла́ць Прэзідыуму ЦВК

БССР і кір. наргасучоту вынікі гэтай праверкі разам з тлумачэннем аб прычынах невыканання пастановы Прэзідыума ЦВК.

3. Абавязаць усіх старшынь РВК, разам з інспектарамі наргасучоту, неаслабна сачыць за пастаноўкай пярвічнага ўчоту і справаздачнасці ў сельсоветах і местсоветах, перыядычна правяраючы становішча гэтага ўчоту і заслухоўваючы на пасяджэннях прэзідыума РВК даклады старшынь сельсоветаў і садаклады інспектароў наргасучоту аб становішчы гэтай работы.

4. Прапанаваць усім РВК спыніць практыку беспадстаўных змен сакратароў сельсоветаў, весці работу па ўздыму іх кваліфікацыі, па палепшанню іх становішча і замацаванню іх на рабоце.

5. Улічваючы, што канторы—Заготжывёла, Загорзярно, Заготшэрсць, Маслапром і мясцовыя органы Белкаапсаюза несвоечасова прысылаюць сельсоветам рэестры і копіі квітанцый для адзнакі ў гаспадарчых кнігах выканання паставак дзяржаве, абавязаць кіраўнікоў кантор Заготжывёлы, Заготзярна, Маслапрома і старшыню прэзідыума Белкаапсаюза праверыць прычыны гэтай затрымкі па іх перыфэрыях, прыняць меры, каб пасылка гэтых дакументаў праводзілася своечасова і сістэматычна кантраляваць гэту работу, прыцягваючы да адказнасці віноўных у незаконнай затрымцы дакументаў.

6. Прапанаваць РВК і органам наргасучоту праверыць становішча ўчоту і справаздачнасці ў аддзелах РВК, асабліва ў РайАНА, Райздраве і Дораддзеле і прыняць меры для іх неадкладнага ўпарадкавання.

7. У сувязі з падрыхтоўкай да прадстаячага ў студзені месяцы 1937 года ўсесаюзнага перапісу насельніцтва, прапанаваць усім РВК і сельсоветам звярнуць асаблівую ўвагу на правільную пастаноўку ўчоту насельніцтва (ЗАГС, пагаспадарчыя кнігі), а таксама забяспечыць своечасовае і добраякаснае правядзенне перапісу па раёну.

8. Прапанаваць Кіраўніцтву наргасучоту БССР забяспечыць да 1-га лістапада 1936 г. усе сельсоветы пагаспадарчымі кнігамі для вядзення ўчоту на 1937 год, а наркаматам (Наркамфін, Наркамзем)—да 1-га студзеня 1937 года—неабходнымі кнігамі і формамі на 1937 год.

9. Прапанаваць усім наркаматам, цэнтральным установам, РВК, горсоветам і сельсоветам строга прытрымлівацца ўстаноўленых урадам СССР і БССР форм і тэрмінаў учоту і справаздачнасці, не дапускаючы ўвядзення незаконных форм і парушэння ўстаноўленых тэрмінаў, а Кіраўніцтву наргасучоту БССР устанавіць сталы нагляд за выкананнем гэтага, прыцягваючы вінаватых у парушэнні гэтага да суровай адказнасці.

10. Уключыць у план работы Аргаддзела Прэзідыума ЦВК БССР праверку становішча ўчоту і справаздачнасці ў РВК і сельсоветах.

Сакратар ЦВК БССР *М. Леўкоў.*

# Аб учоце пасеўных плошчаў у 1936 г.

## Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б

У мэтах падвядзення вынікаў пасеўнай кампаніі вясны першага стаханаўскага года і ўстанаўлення дасканалых размераў пасеўных плошчаў у 1936 г. Совет Народных Камісараў і ЦК КП(б)Б пастанаўляюць:

1. Абавязаць кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту БССР і яго раённую і ўчастковую інспектуру на мясцах, у адпаведнасці з праграмай ЦУНХУ Дзяржплана СССР, на падставе заключнай справаздачы соўгасаў, ОРС'аў, гаспадарак дзяржкааперацыйных установ і арганізацый, калгасаў, а таксама сельсоветаў па пасевах індывідуальнага карыстання (калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і інш. насельніцтва) устанавіць дакладны размер пасеўнай плошчы яравых пасеваў 1936 г. і плошчы азімых пасеваў восені 1935 г. у сельсовецкім і раённым разрэзе.

2. Устанавіць тэрмін пачатку складання заключных справаздач аб пасеўных плошчах азімых і яравых ва ўсіх катэгорыях гаспадарак і сельсоветах з 15 чэрвеня па 1 ліпеня 1936 г. і прадстаўлення іх органам Наргасучоту на мясцах не пазней як праз 5 дзён пасля сканчэння сяўбы яравых.

3. Абавязаць дырэктароў дзяржаўных сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў (соўгасаў, ОРС'аў і т. д.), старшынь калгасаў, кіраўнікоў установ і арганізацый, маючых пасевы, і старшынь сельсоветаў, вылучыць асоб, адказных за ўчот пасеўных плошчаў і складанне заключных справаздач, якім у вызначаны час з'явіцца ў райінспектуры наргасучоту і прайсці інструктаж па запаўненню заключных справаздач аб пасевах.

4. Абавязаць Наркамзем, Упоўнаркомсоўгасаў, Упоўнаркамлес і іншыя наркаматы, ведамствы і арганізацыі даць падпарадкаваным ім гаспадаркам, якія маюць пасеўныя плошчы, указанне аб прадстаўленні па ўстаноўленай форме і ў тэрміны, указаныя ў п. 2 гэтай пастановы, органам народна-гаспадарчага ўчоту на мясцах заключнай справаздачы аб пасеўных плошчах азімых і яравых, усклаўшы адказнасць за правільнасць і своечасовасць даных на кіраўнікоў і рахунковых работнікаў адпаведных гаспадарак, а па пасевах індывідуальнага карыстання—на старшынь сельсоветаў.

У выпадках, калі наяўны склад упаўнаважаных сельсовета не забяспечвае правядзенне ўчоту, старшыні сельсоветаў павінны іх замяніць, па ўзгадненню з РВК, найбольш пісьменнымі і палітычна праверанымі работнікамі з сельскага актыва.

5. Абавязаць РВК і сельсоветы абгаварыць заключныя справаздачы на прэзідыумах райвыканкомаў і сельсоветаў

з пункту гледжання паўнаты ахопу пасеўнай плошчы і праверкі выканання дзяржаўнага плана сяўбы наогул і ў прыватнасці пасеву гатунковым насеннем яравых збожжавых культур, сяўбы кармовых культур і канюшыны ў асаблівасці. У мэтах грамадскай праверкі і правільнасці даных аб пасеўных плошчах індывідуальнага карыстання абавязаць РВК і сельсоветы абгаварыць вынікі заключных справаздач на шырокіх сходах працоўных аднаасобнікаў і калгаснікаў.

6. Папярэдзіць дырэктароў соўгасаў, ОРС'аў, леспрамгасаў, старшынь калгасаў, кіраўнікоў дзяржаўных, каапeрацыйных устаноў і арганізацый, маючых пасеўныя плошчы, а таксама старшынь сельсоветаў, што яны нясуць персанальную адказнасць за своечасовае прадстаўленне і правільнасць даных аб пасеўных плошчах іх гаспадарак.

7. Даручыць органам народна-гаспадарчага ўчоту ў тых выпадках, калі праверкай асобных аб'ектаў (калгасаў, устаноў, арганізацый, асобных пунктаў, сельсоветаў у цэлым) будзе выяўлена заблытанасць становішча землекарыстання або ўчоту пасеўных плошчаў, якая не дае магчымасці правільна вызначыць размеры пасеўных плошчаў,—патрабаваць ад райвыканкомаў правядзення выбарачных інструментальных абмераў. Указаныя абмеры павінны быць забяспечаны райвыканкомамі неабходным інструментарыем, кадрамі і належным арганізацыйна-палітычным кіраўніцтвам, з аднясеннем выдаткаў па абмеру пасеваў калгасна-сялянскага сектара на райвыканкомы, а па пасевах соўгасаў і ўстаноў—на кошт апошніх.

8. Лічыць, што прадстаўляемыя даныя аб пасеўных плошчах павінны грунтавацца па актах прыёмкі работ у натуры ў калгасе старшынёй калгаса, у соўгасах—старшымі аграномамі і кіраўнікамі аддзяленняў, згодна пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 20 лютага 1936 г. „Аб веснавой сяўбе“.

9. Устанавіць, што асобы, не прадставіўшыя ва ўстаноўлены тэрмін заключных справаздач, а таксама прадставіўшыя няправільныя даныя аб размерах фактычна засеянай плошчы яравых 1936 г., плошчы азімых па сяўбе ўвосень 1935 г. (за вылікам гібелі, згодна актаў Дзяржстраха) і плошчы шматгадовых траў пасеву мінулых гадоў,—прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

Вынікі ўчоту размераў пасеўных плошчаў 1936 г. па раёнах і БССР заслухаць на пасяджэнні СНК БССР.

---

## Пастанова № 359

### Цэнтральнага Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту дзяржплана СССР

*15 мая 1936 года*

**Аб скарачэнні тэрміну прадстаўлення справаздачнасці па працы і заработнай плаце прамысловымі прадпрыемствамі і будаўніцтвамі**

1. Абавязаць прамысловыя прадпрыемствы ўсіх наркаматаў і ведамстваў (за выключэннем прадпрыемстваў НКЦяжпрома) прадстаўляць ва ўстаноўленыя адрасы справаздачныя карткі № 1 і 1-а па ўчоту працы і заработнай платы не пазней 10-га чысла пасля справаздачнага месяца.

Увага. Прамысловыя прадпрыемствы сістэмы НКЦяжпрома прадстаўляюць справаздачнасць па працы і зарплаце ў органы ЦУНХУ у тэрміны, устаноўленыя пастановай ЦУНХУ № 240 ад 22 сакавіка 1936 г.

2. Абавязаць будаўніцтвы ўсіх наркаматаў і ведамстваў, якія вядуцца як падрадным, так і гаспадарчым спосабам, прадстаўляць у вызначаныя адрасы справаздачную картку № 4 не пазней 10-га чысла пасля справаздачнага месяца.

Начальнік Цэнтральнага Кіраўніцтва
Наргасучоту Дзяржплана СССР *Краваль.*

---

## Загад № 66

### Па кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчоту БССР

*ад 10 мая 1936 года*

У адпаведнасці з загадам № 87 ЦУНХУ ад 19 сакавіка г. г. загадваю:

1. Устанавіць, што пры змене начальніка акруговага кіраўніцтва наргасучоту альбо райінспектара павінны абавязкова складацца прыёма-здатачныя акты з указаннем становішча спраў і маёмасці акруговага кіраўніцтва альбо райінспектуры.

Прыёма-здатачныя акты, як па акруговых кіраўніцтвах, так і па райінспектурах складаюцца пры ўдзеле прадстаўніка кіраўніцтва наргасучоту БССР.

Усе прыёма-здатачныя акты павінны быць прадстаўлены на зацверджанне мне альбо майму намесніку.

2. Нагляд за выкананнем гэтага загада ўскладаецца на ўчотную інспекцыю КНГУ.

Начальнік кіраўніцтва наргасучоту БССР *Уладзімірскі.*

---

# Загад № 216

## Па кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчоту БССР

*ад 7 мая 1936 года*

Як высветлена пры ґбследванні некаторых райінспектур, работа ўчастковых інспектараў на мясцах пастаўлена нездавальняюча: участковыя інспектары як па сваёй віне, так і ў большай меры па віне райінспектароў, большую частку часу знаходзяцца не на ўчастках, а ў раенным цэнтры, у райінспектуры (напрыклад: участковы інспектар Любаньскага раёна Жаурыд у студзені месяцы ў часе перапісу жывёлы выязджаў толькі ў адзін сельсовет на 3—4 дні, а ўвесь астатні час знаходзіўся ў райінспектуры; участковыя інспектары ў Чырвона-Слабодскім раёне Максіменя і Хоміч на працягу студзеня і лютага месяцаў былі толькі па 9 дзён у месяц на сваіх участках і то наездам, бо зранку выязджалі на ўчастак, а ўвечары зварочваліся назад у раённы цэнтр).

Расцэньваючы такую работу ўчастковых інспектараў, як гастралёрства, якое вядзе да прарываў у рабоце на ўчастках і асабліва ў пастаноўцы ўчоту ў сельсоветах і калгасах, загадваю:

1. Усім райінспектарам тэрмінова прыняць меры да таго, каб участковыя інспектары знаходзіліся ўвесь час на сваіх участках, у прыватнасці ў вызначаных цэнтрах іх участкаў, а не сядзелі ў раённым цэнтры і ў райінспектуры. Прыязджаць у раённы цэнтр участковыя інспектары маюць права толькі па выкліку райінспектара.

Катэгарычна забараняю райінспектарам затрымліваць участковых інспектароў у раённым цэнтры для работы ў райінспектуры.

2. Райінспектарам абавязкова трэба складаць месячныя планы работ для кожнага ўчастковага інспектара, праводзіць з імі не менш 1—2 разоў у месяц вытворчыя нарады і правяраць работу іх на месцы ў сельсоветах і калгасах.

3. Райінспектарам загад гэты прапрацаваць разам з участковымі інспектарамі і забяспечыць яго поўнае выкананне.

4. Учотнай інспекцыі КНГУ правяраць выкананне гэтага загада на месцы ў раёнах і аб усіх выпадках невыканання яго як з боку раённых, так і збоку ўчастковых інспектароў безадкладна паведамляць мне для прыняцця належных мер.

Начальнік кіраўніцтва
наргасучоту БССР *Владзімірскі.*

---

# Загад № 64

## па кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчоту БССР

*ад 4 мая 1936 года*

Як устаноўлена на месцы, з боку ўчастковага інспектара Буда-Кашалеўскага раёна Драянкова маюць месца нядбайныя адносіны да работы (у час перапісу жывёлы Драянкаў не забяспечыў кантролю за работай рэгістратараў, у выніку чаго на яго ўчастку выяўлена было каля 75 проц. укрытай жывёлы і перапіс быў адменен), імкненне выжыць райінспектара, паклёпы на райінспектара (як, напрыклад, аб прысваенні райінспектарам т. Гаўрошам належачых рэгістратару 50 руб., што не пацвердзілася пры праверцы на месцы) і т. д.

На падставе вышэйпаказанага і маючы на ўвазе, што такія адносіны ўчастковага інспектара Драянкова падрываюць работу, працдысцыпліну і аўтарытэт райінспектуры і ўносяць нездаровую атмасферу ў райінспектуры—загадваю:

1. Участковага інспектара Драянкова з работы зняць.

2. Папярэдзіць участковага інспектара т. Фурзенка, што ў выпадку дапушчэння з яго боку адносін, падрываючых работу райінспектуры (невыкананне распараджэнняў райінспектара і т. д.) да яго будуць прыняты суровыя меры спагнання.

3. Прапанаваць райінспектару т. Гаўрошу ўзмацніць грамадска-выхаваўчую работу з участковымі інспектарамі, праводзячы з імі перыядычна вытворчыя нарады.

Начальнік кіраўніцтва
наргасучоту БССР *Владзімірскі.*

---

# Загад № 269

## па кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчоту БССР

*ад 3 чэрвеня 1936 года*

§ 1.

За добраякаснае і датэрміновае выкананне работ па promперапісу і бягучаму ўчоту промабсталявання прэміраваць:

1. Па апарату КНГУ—т. Варатынскага . 250 руб.
   „ „ „ „ Казіннік . . . . 200 „
   „ „ „ „ Шустэрмана . . 200 „
2. Райінспектара Гарадоцкага раёна т. Аўдзея 200 руб.
3. „ Рэчыцкага раёна т. Белугіна . 200 „
4. „ Віцебскага раёна т. Шметара . 200 „
5. Эканаміста Гомельскай інспектуры т. Толпего 150 „
6. Участковага інспектара Глускай інспектуры т. Хадакевіча 100 руб.

§ 2.

За выдатна складзеную запіску з аналізам ітогаў перапісу соцпрамысловасці і добраякаснае выкананне ўсіх заданняў па перапісу прэміраваць Чаускага райінспектара т. Карачуна ў суме 200 руб.

§ 3.

За датэрміновае і добраякаснае выкананне работ па гадавых адчотах прамысловасці прэміраваць т. Кунько ў суме 250 руб. і т. Шэвелеву 200 руб.

Начальнік кіраўніцтва
наргасучоту БССР *Уладзімірскі.*

---

## Усім райінспектарам наргасучоту

З прычыны таго, што ў інструкцыі па справаздачнасці сельсоветаў мае месца недасканальнасць у адносіне хавання справаздач калгасаў, а менавіта: на стар. 15 указана, што гэтыя справаздачы павінны хавацца ў справах сельсовета на працягу года, а на стар. 16 гэтай-жа інструкцыі ўказана, што адначасова з сваім адчотам сельсовет адсылае ў райза і справаздачныя бланкі калгасаў,—Учотная інспекцыя паведамляе:

1. Справаздачы калгасаў павінны адсылацца пры зводных справаздачах сельсоветаў у райза.

2. Праверка гэтых вестак у сельсовеце вытвараецца на падставе запісаў у кнізе ўчоту сельгаскампаній.

У выпадку, калі маецца сумненне ў правільнасці перанясення матэрыялаў з справаздачы калгаса ў кнігу сельгаскампаній, праверку трэба зрабіць па даным самаго калгаса, якія ёсць у праўленні калгаса.

Начальнік Учотнай інспекцыі
КНГУ БССР *Дышлевіч.*

---

## Пастанова

прэзідыума Дубровенскага раённага выканаўчага камітэта

*3 красавіка 1936 года*

### Аб складанні асноўных паказчыкаў выканання народна-гаспадарчага плана па раёну

З мэтай штомесячнага атрымання асноўных паказчыкаў па выкананню народна-гаспадарчага плана па раёну, прэзідыум райвыканкома пастанаўляе:

1. Абавязаць райінспектуру наргасучоту наладзіць штомесячнае складанне кан'юктурных аглядаў па выкананню народна-гаспадарчага плана па раёну, па ўсім галінам, згодна праграмы КНГУ БССР, пачынаючы з 1/I-36 г. і забяспечыць прадстаўленне гэтых аглядаў у РВК і РК КП(б)Б не пазней 15/IV-36 г. за 1-ы квартал г. г., а ў далейшым—штомесячна не пазней 15 числа наступнага месяца за справаздачным.

2. Прапанаваць фабрыцы „Дняпроўская мануфактура“, вінзаводу, усім арцелям прамысловай і інваліднай каапераіцыі і хлебапякарні Гарпо, пад персанальную адказнасць дырэктароў фабрыкі і завода і старшынь арцеляў, штомесячна—да 5 числа наступнага месяца за справаздачным — прадстаўляць у райінспектуру наргасучоту карткі тэрміновага данясення аб дзейнасці прамысловасці, а райпромкамбінату—пад адказнасць т. Камендантава—забяспечыць прадстаўленне ў РІНГУ ў тыя самыя тэрміны па кавальскай і сталярнай майстэрні карткі па ўчоту колькасці работнікаў і зарплаты (ф. № 1-б) і даных аб валавой прадукцыі, а па млынах—справаздачы аб рабоце млынарных прадпрыемстваў РВК.

3. Па сельскай гаспадарцы прапанаваць райземаддзелу, МТС, соўгасам,—пад персанальную адказнасць заг. райза, дырэктароў МТС і соўгасаў,—забяспечыць прадстаўленне ўсіх неабходных матэрыялаў у райінспектуру наргасучоту (па калектывізацыі, аб трактарным парку, рамонце інвентара, падрыхтоўцы і правядзенню вясенняга севу, уборцы, кантрактацыі і перадачы калгаснікам цёлак) у тэрміны, паказаныя райінспектурай наргасучоту

па формах, выцякаючых з зацверджаных справаздач, прадстаўляемых апошнімі ў НКЗем і НКСоўгасаў.

4. Абавязаць Упаўкамзаг і ўсе гандлёвыя і загатоўчыя арганізацыі раёна прадстаўляць у наргасучот усе неабходныя весткі па цэнтралізаваным і дэцэнтралізаваным загатоўкам, па рэалізацыі тавараў у рознічнай сеці і звароту прадукцыі па грамадскаму харчаванню.

5. Прапанаваць старшым інспектарам Нарасветы і Аховы Здароўя прадстаўляць у наргасучот весткі аб дзейнасці ўстаноў Нарасветы і Аховы Здароўя па ўстаноўленых формах і ў строга вызначаныя тэрміны.

6. У мэтах дакладнага і акуратнага нагляду за выкананнем мясцовага бюджэту і мабілізацыі сродкаў насельніцтва, увязваючы гэтае пытанне з выкананнем усяго народна-гаспадарчага плана па раёну, абавязаць райфа, пад адказнасць загадчыка, прадстаўляць у наргасучот копію квартальнай справаздачы аб выкананні мясцовага бюджэта і памесячныя даныя аб мабілізацыі сродкаў.

7. Папярэдзіць усіх кіраўнікоў аддзелаў РВК, дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, кааперацыйных і грамадскіх арганізацый, што пры непрадстаўленні імі ўсіх неабходных вестак у наргасучот, да іх будуць ужыты суровыя меры ўздзейнічання.

8. Даручыць райінспектуры наргасучоту праз месяц далажыць прэзідыуму РВК аб выкананні гэтай пастановы.

9. Гэту пастанову апублікаваць у друку.

Старшыня райвыканкома *Шыловіч.*

Сакратар *Владзімірэнка.*

---

**Вынікі праверкі становішча ўчоту ў сельсоветах, праведзенай інспектурамі наргасучоту ў красавіку 1936 г.**

| Назва раёнаў | Колькі сельсоветаў у раёне | Колькі сельсоветаў праверана | У якіх з праверaных сельсоветаў учот пастаўлен | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | добра | здавальняюча | дрэнна | |
| 1. Асвейскі | 10 | 10 | — | 8 | 2 | |
| 2. Асіпавіцкі | 14 | 13 | 1 | 2 | 10 | |
| 3. Бабруйскі | 16 | 13 | 4 | 6 | 3 | |
| 4. Багушэўскі | 13 | 13 | 2 | 4 | 7 | |
| 5. Барысаўскі | 24 | 24 | 11 | 10 | 3 | |
| 6. Бешанковіцкі | 21 | 21 | 4 | 14 | 3 | |
| 7. Брагінскі | 14 | 14 | 7 | 4 | 3 | |
| 8. Буда-Кашал. | 12 | 12 | 3 | 7 | 2 | |
| 9. Быхаўскі | 23 | 23 | 5 | 15 | 3 | |
| 10. Бягомльскі | 11 | 11 | 3 | 5 | 3 | |
| 11. Бялыніцкі | 17 | 12 | 1 | 7 | 4 | |
| 12. Бярэзінскі | 18 | 16 | 3 | 9 | 4 | |
| 13. Веткаўскі | 15 | 15 | 5 | 8 | 2 | |
| 14. Ветрынск | 14 | — | — | — | — | Матэрыял не прадст. |
| 15. Віцебскі | 14 | 14 | 8 | 4 | 2 | |
| 16. Гарадоцкі | 13 | 13 | 1 | 7 | 5 | |
| 17. Глускі | 19 | — | — | — | — | Матэрыял не прадст. |
| 18. Гомельскі | 20 | 20 | 4 | 9 | 7 | |
| 19. Горацкі | 15 | 15 | — | 12 | 3 | |
| 20. Грэскі | 12 | 12 | 3 | 6 | 3 | |
| 21. Даманавіцкі | 18 | 18 | 6 | 8 | 4 | |
| 22. Дзяржынскі | 17 | 17 | — | 10 | 7 | |
| 23. Добрушскі | 10 | — | — | — | — | Матэрыял не прадст. |
| 24. Дрыбінскі | 18 | 16 | — | 8 | 8 | |
| 25. Дрысенскі | 14 | 14 | 1 | 1 | 12 | |
| 26. Дубровенскі | 18 | 16 | 1 | 10 | 5 | |
| 27. Ельскі | 13 | 13 | 3 | 9 | 1 | |
| 28. Жлобінскі | 23 | 23 | 10 | 3 | 10 | |
| 29. Журавіцкі | 14 | 14 | 5 | 5 | 4 | |
| 30. Жыткавіцкі | 10 | 10 | 2 | 4 | 4 | |
| 31. Заслаўскі | 12 | — | — | — | — | Матэрыял не прадст. |
| 32. Камарынскі | 15 | 15 | 5 | 8 | 2 | |
| 33. Капаткевіцкі | 14 | 14 | 5 | 8 | 1 | |
| 34. Кармянскі | 17 | 17 | 6 | 5 | 6 | |
| 35. Касцюковіцкі | 25 | 25 | 12 | 6 | 7 | |
| 36. Кіраўскі | 16 | 16 | 3 | 8 | 5 | |
| 37. Клімавіцкі | 22 | 22 | 7 | 11 | 4 | |
| 38. Клічаўскі | 19 | 19 | 6 | 9 | 4 | |
| 39. Копыльскі | 17 | 17 | 3 | 10 | 4 | |
| 40. Круглянскі | 13 | 13 | 5 | 6 | 2 | |
| 41. Крупскі | 15 | 15 | 4 | 8 | 3 | |
| 42. Крычаўскі | 10 | — | — | — | — | Матэрыял не прадст. |
| 43. Лагойскі | 14 | 14 | — | 9 | 5 | |
| 44. Лельчыцкі | 12 | 12 | 2 | 2 | 8 | |
| 45. Лепельскі | 15 | — | — | — | — | Матэрыял не прадст. |

| Назва раёнаў | Колькі сельсоветаў у раёне | Колькі сельсоветаў праверана | У скалькіх з правераных сельсоветаў учот пастаўлен | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | добра | здавальняюча | дрэнна | |
| 46. Лёзненскі . . | 20 | — | — | — | — | Матэрыял не прадст. |
| 47. Лоеўскі . . . | 16 | 16 | 7 | 5 | 4 | |
| 48. Любаньскі . . | 11 | 11 | 3 | 2 | 6 | |
| 49. Магілеўскі . . | 26 | 7 | — | 4 | 3 | Няма поўных звестак |
| 50. Мазырскі . . | 20 | 20 | 5 | 9 | 6 | |
| 51. Менск (гор.) . | — | — | — | — | — | |
| 52. Менскі раён . | 19 | 19 | 8 | 7 | 4 | |
| 53. Мехаўскі. . . | 15 | 15 | 3 | 9 | 3 | |
| 54. Мсціслаўскі . | 17 | 17 | 6 | 7 | 4 | |
| 55. Нараўлянскі . | 18 | 11 | 5 | 4 | 2 | |
| 56. Аршанскі . . | 25 | 25 | 4 | 17 | 4 | |
| 57. Парыцкі. . . | 19 | 19 | 4 | 8 | 7 | |
| 58. Петрыкаўскі . | 14 | 14 | 2 | 8 | 4 | |
| 59. Плешчаніцкі . | 14 | 14 | 5 | 4 | 5 | |
| 60. Полацкі . . . | 19 | 19 | — | 14 | 5 | |
| 61. Прапойскі . . | 14 | 14 | 7 | 4 | 3 | |
| 62. Пухавіцкі . . | 14 | 14 | 5 | 6 | 3 | |
| 63. Рагачоўскі. . | 19 | 19 | 9 | 7 | 3 | |
| 64. Расонскі. . . | 16 | 16 | 8 | 5 | 3 | |
| 65. Рэчыцкі. . . | 30 | 30 | 9 | 16 | 5 | |
| 66. Свяцілавіцкі . | 17 | 17 | — | 12 | 5 | |
| 67. Сенненскі . . | 13 | 13 | 2 | 1 | 10 | |
| 68. Сіроцінскі . . | 15 | 15 | 5 | 8 | 2 | |
| 69. Слуцкі. . . | 19 | 19 | 7 | 10 | 2 | |
| 70. Смалявіцкі | 14 | 14 | 4 | 7 | 3 | |
| 71. Смілавіцкі . | 13 | 13 | 4 | 4 | 5 | |
| 72. Ст.-Дарож. . | 12 | 11 | 2 | 3 | 6 | |
| 73. Старобінскі . | 14 | 14 | 2 | 6 | 6 | |
| 74. Суражскі. . . | 18 | 18 | 10 | 2 | 6 | |
| 75. Талачынскі. . | 20 | 20 | 4 | 4 | 12 | |
| 76. Тураўскі. . . | 9 | 9 | 3 | 4 | 2 | |
| 77. Уваравіцкі. . | 21 | 21 | 2 | 15 | 4 | |
| 78. Уздзенскі . . | 13 | 13 | 7 | 5 | 1 | |
| 79. Ушацкі. . . . | 19 | 19 | — | 11 | 8 | |
| 80. Халопеніцкі . | 13 | 8 | 3 | 2 | 3 | |
| 81. Хоцімскі. . . | 15 | 15 | 4 | 6 | 5 | |
| 82. Хойніцкі. . . | 24 | 24 | 5 | 15 | 4 | |
| 83. Церахоўскі. . | 19 | 16 | — | 6 | 10 | |
| 84. Чаускі . . . | 20 | 20 | — | 7 | 13 | |
| 85. Чачэрскі. . . | 19 | 19 | 7 | 7 | 5 | |
| 86. Чашніцкі. . . | 15 | 15 | 9 | 6 | — | |
| 87. Чырвонапол. . | 16 | 16 | 2 | 10 | 4 | |
| 88. Чырв.-Слаб. . | 12 | 12 | 4 | 5 | 3 | |
| 89. Чэрвеньскі. . | 12 | 12 | 2 | 9 | 1 | |
| 90. Чэрыкаўскі. . | 15 | 15 | 2 | 10 | 3 | |
| 91. Шклоўскі . . | 24 | 24 | — | 16 | 8 | |
| Усяго . | 1473 | 1323 | 331 | 612 | 380 | |

# Пастанова

## прэзідыума Стара-Дарожскага раённага выканаўчага камітэта

*ад 27 красавіка 1936 года*

## Аб выніках праверкі пастаноўкі пярвічнага ўчоту ў сельскіх советах

Адзначыць, што пярвічны ўчот пастаўлен добра ў Стара-Дарожскім і Дражненскім сельсоветах і здавальняюча ў Языльскім, Пасяцкім і Крываносаўскім сельсоветах. У Нова-Дарожскім, Горкаўскім, Кармазаўскім сельсоветах і Стара-Дарожскім местсовеце пярвічны ўчот пастаўлен дрэнна, а ў Жыцінскім і Дараганаўскім сельсоветах амаль зусім сарвана гэта справа, што з'яўляецца прамым вынікам недаацэнкі з боку некаторых старшынь і сакратароў сельсоветаў гэтай важнейшай справы— наладжвання чоткага ўчоту.

Некаторыя з сакратароў сельсоветаў, на якіх персанальна ўскладзена вядзенне пярвічнага ўчоту ў сельсоветах, спасылаючыся на рад работ, якія ім прыходзіцца выконваць, не жадаюць займацца сваёй асноўнай работай (Жыцін, Дараганава, местсовет).

Расцэньваючы гэтыя адносіны сельсоветаў, як факты спрыяючыя зрыву ўчоту ў сельсоветах, заблытанасці яго і тым самым стварэнню растрат, очкаўцірацельства, несвоечасовасці дачы зводак, а падчас і крымінальных учынкаў, прэзідыум Стара-Дарожскага РВК пастанаўляе:

1. Апошні раз папярэдзіць старшынь і сакратароў сельсоветаў, што вядзенне пагаспадарчых кніг і журналаў калгасаў і ўсяго пярвічнага ўчоту сельсоветаў з'яўляецца асноўнай работай сакратароў сельсоветаў і ніякія спасылкі на наяўнасць другіх работ, перашкаджаючых вядзенню кніг, своечасоваму ўнясенню ў іх на працягу ўсяго года паказчыкаў выканання паставак, грашовых плацяжоў і інш., прымацца пад увагу не будуць, а віноўныя ў зрыве гэтай справы будуць прыцягнуты да самай суровай адказнасці.

2. Забараніць выклік сакратароў сельсоветаў у раён арганізацыямі і ўстановамі без санкцыі райвыканкома.

3. Катэгарычна прапанаваць старшыням сельсоветаў справу вядзення ўчоту ў сельсоветах узяць пад свой штодзённы непасрэдны кантроль, ствараючы такія ўмовы ў рабоце сакратароў сельсоветаў, якія-б забяспечылі поўнае і своечасовае выкананне плана ўсіх учотных работ сельсоветаў.

4. Абавязаць загатоўчыя арганізацыі і Райдораддзел своечасова дасылаць у сельсоветы копіі квітоў і спісы асоб па выка-

нанню паставак, кантрактацыі і дорудзелу—для разноскі па асабовым рахункам.

5. Абавязаць райінспектуру наргасучоту штомесячна праводзіць абследванне сельсоветаў у справе пастаноўкі ўчоту і ўвядзення выключна дакументальнай справаздачнасці па ўсім галінам гаспадаркі.

6. Абавязаць інструктара РВК і загадчыкаў аддзелаў РВК пры наведванні сельсоветаў правяраць пастаноўку пярвічнага ўчоту.

7. Сакратару райвыканкома т. Лебедзевай уключыць у план работы прэзідыума РВК адчоты старшынь і сакратароў сельсоветаў на прэзідыуме РВК аб пастаноўцы пярвічнага ўчоту па 2 сельсоветам штомесячна, з папярэднім абследваннем іх інспектурай наргасучоту.

8. За страту журналаў калгасаў і пагаспадарчых кніг на рабочых, служачых і інш., якія па закону павінны захоўвацца нараўне з грашовымі дакументамі, прапанаваць Жыцінскаму сельсовету пытанне аб сакратару Жыцінскага сельсовета Капуста абгаварыць на прэзідыуме сельсовета і ўсе матэрыялы даслаць РВК.

9. Прапанаваць сакратарам сельскіх советаў, пад іх асабістую адказнасць, пагаспадарчыя кнігі і ўсю дакументацыю па пярвічнаму ўчоту захоўваць у закрытых шафах пад замкамі.

Старшыня РВК *Русак.*

Сакратар РВК *Лебедзева.*

---

## Выпіс

### з пратакола № 13 пасяджэння прэзідыума Даманавіцкага РВК.

*Ад 26/IV-1936 года*

Слухалі: Аб становішчы пярвічнага ўчоту (інспектар НГУ т. Вагман).

Пастанавілі: Адзначыць, што старшыні і сакратары Халмянскага, Азарыцкага, Людвінаўскага, Зеленоцкага, Капліцкага, Сухавіцкага і Асташкавіцкага сельсоветаў да гэтага часу не зрабілі належнага пераломy ў справе ўвядзення чоткага ўчоту ў сельсоветах і гэту работу ставяць як апошнюю задачу. Не гледзячы на тое, што кнігі былі дасланы своечасова і былі ўсе магчымасці ўнесці ў іх неабходныя паказчыкі па гаспадаркам выканання абавязацельстваў перад дзяржавай (малакопастаўкі, мясапастаўкі, план севу азімых, насельніцтва, будынкі, землекарыстанне, заданне па жывёлагадоўлі, план і здача яравых).

а таксама завесці поўнасцю журналы калгасаў і рабіць у кнігах і журналах 1936 года своечасова адзнакі аб выкананні абавязацельстваў, да гэтага часу большасцю абследваных сельсоветаў адкрыты толькі ліцавыя рахункі без унясення вышэйадзначаных паказчыкаў.

Сакратары сельсоветаў, на якіх персанальна ўскладзена вядзенне пярвічных кніг у сельсоветах, займаюцца ўсім іншым, а не вядзеннем кніг і спасылаючыся на перагружанасць работамі, якія яны выконваюць, не жадаюць займацца сваёй асноўнай работай.

Расцэньваючы такія адносіны сакратароў сельсоветаў, як факты спрыяючыя зрыву ўчоту ў сельсовеце, заблытанасці яго і тым самым стварэнню очкаўцірацельства і несвоечасовасці дачы патрабуемых зводак, прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. За поўную бяздзейнасць у справе вядзення пярвічнага ўчоту на працягу 1935 года, а таксама незавядзенне поўнасцю кніг з унясеннем адпаведных паказчыкаў на 1936 год, ігнараванне гэтай работы і нядбайныя адносіны да вядзення ўсёй дакументацыі сельсовета сакратару Халмянскага сельсовета тав. Трэцякову, Азарыцкага сельсовета—тав. Еўстратоўскаму абвясціць суровую вымову. Папярэдзіць сакратароў Азарыцкага і Халмянскага сельсоветаў, што калі на працягу 5 дзён не будзе заведзен пярвічны ўчот—па прэзідыуме будзе пастаўлена пытанне аб зняцці іх з работы і прыцягненні да судовай адказнасці за зрыў учоту і грубае парушэнне пастановы СНК СССР ад 7/XII-35 года.

2. Апошні раз папярэдзіць сакратароў сельсоветаў, што вядзенне кніг, журналаў калгасаў і пярвічнага ўчоту сельсовета з'яўляецца іх асноўнай работай і ніякія спасылкі на наяўнасць другіх работ, перашкаджаючых вядзенню кніг, прымацца пад увагу не будуць. Яны абавязаны ўносіць у іх на працягу ўсяго года паказчыкі выканання паставак, грашовых плацяжоў і інш.

3. Абавязаць Райзаг, Заготжывёлу, Дораддзел і Заготшэрсць, пад асабістую адказнасць кіраўнікоў, своечасова дасылаць копіі квітоў сельсоветам для адзнак у пагаспадарчых кнігах выканання дзяржаўных абавязацельстваў.

4. Абавязаць маслазаводы неадкладна перадаваць сельсоветам спісы здатчыкаў малака і масла, і ў далейшым акуратна дасылаць гэтыя спісы сельсоветам.

5. Прапанаваць старшыням сельсоветаў справу вядзення пярвічнага ўчоту ў сельсоветах узяць пад штодзённы непасрэдны кантроль, ствараючы такія ўмовы ў рабоце сакратароў сельсоветаў, якія-б забяспечылі ім поўнае і своечасовае выкананне плана ўсіх учотных работ сельсовета.

6. Устанавіць, што кожны сакратар сельсовета павінен абавязкова прайсці кваліфікацыйную камісію пры РВК.

7. Забараніць усім арганізацыям і ўстановам раёна патрабаваць ад сельсоветаў якія-б то ні было весткі па незацвярджа-

ным урадам формах і тэрмінах, а сельсоветам—не даваць гэтыя весткі.

8. Прапанаваць інспектуры наргасучоту не радзей 2-х разоў у месяц утвараць абследванне сельсоветаў у справе пастаноўкі ўчоту і вядзення выключна дакументальнай справаздачнасці па ўсім галінам гаспадаркі.

9. Заслухаць даклады сакратароў сельсоветаў на наступным прэзідыуме РВК аб становішчы пярвічнага ўчоту ў Асташкаўскім, Зеленоцкім і Капліцкім сельсоветах з папярэднім абследваннем гэтых сельсоветаў інспектурай НГУ.

Сакратар РВК *Дагура.*

---

# Пастанова

## прэзідыума Асіпавіцкага райвыканкома

*ад 19/IV-1936 года*

### Аб становішчы пярвічнага ўчоту на Верайцоўскаму сельсовету і калгасу „Чырвоная слабада“

Адзначыць нездавальняючую пастаноўку пярвічнага ўчоту па Верайцоўскаму сельсовету, указаўшы прэзідыуму Верайцоўскага сельсовета і асабіста старшыні т. Малахаву на адсутнасць кантролю з яго боку апаратам сельсовета. У выніку па нядбайнасці сакратара сельсовета т. Балацуна пярвічны ўчот па дасланых НГУ формах не быў заведзен да апошніх дзён, не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні з боку НГУ.

Прапанаваць прэзідыуму сельсовета пад асабістую адказнасць т. Малахава і пад адказнасць сакратара сельсовета т. Балацуна на працягу дэкады ліквідаваць усе недахопы, адзначаныя ў акце па абследванню НГУ у пастаноўцы пярвічнага учоту, завесці поўнасцю ўсе формы ўчоту, недапускаючы зацяжкі ўчоту ў далейшым.

Указаць т. Балацуну, што ім дапушчаецца нядбайнасць у рабоце, якая прыводзіць да сістэматычнага невыканання з яго боку раду даручэнняў, і што калі ім не будзе гэта выпраўлена, ён будзе прыцягнут да адказнасці.

Даручыць т. Малахаву абгаварыць на прэзідыуме сельсовета пытанне і зняць з працы рахункавода, які не здолен забяспечваць работу, а т. Велічко даручыць накласці спагнанне на работніка райФА т. Бабіцкага, які санкцыянаваў—не маючы на гэта права—прыём рахункавода.

Прапанаваць праўленню калгаса „Чырвоная слабада“ і рахункаводу калгаса забяспечыць добрую пастаноўку ўчоту ў калгасе. Прыняць да ведама заяву старшыні калгаса і рахункавода,

што імі ўжо прыняты меры да знішчэння ўказаных пры абследванні недахопаў і што ўчот будзе пастаўлен добра.

Адзначыць, што наргасучот па сваёй ініцыятыве добра пачаў работу, па абследванні пастаноўкі пярвічнага ўчоту ў калгасах і сельсоветах з прыняццем на месцы адпаведных мер і дапамогі.

Старшыня РВК *Караленка.*

Сакратар *Бендзеева.*

---

## Пастанова

### прэзідыума Бешанковіцкага райвыканкома

*ад 13 красавіка 1936 года*

### Аб становішчы пярвічнага ўчоту ў сельсоветах

1. Прыняць да ведама заяву раённага інспектара народнагаспадарчага ўчоту т. Кулакоўскага аб тым, што пагаспадарчымі кнігамі №№ 1, 2, 3, 3-а, 4 и 4-а сельсоветы забяспечаны поўнасцю.

2. Адзначыць, што старшыні сельсоветаў не звярнулі належнай увагі на становішча ўчоту ў сельсоветах і работу сакратароў сельсоветаў у галіне учотнай справы не ўзялі пад штодзённы кантроль.

3. Лічыць зусім недапушчальным з'явішчам, што сакратары сельсоветоў не толькі недаацэньваюць справу ўчоту ў сельсоветах, а нават паасобныя з іх (Навікоўскі—Кавалеўскі, Ганькаўскі—Гайдукоў) ігнаруюць гэту справу і лічачы, што ўчот гэта—двугародная галіна работы сельсовета, усклалі гэтую працу на рахункаводаў совета, у выніку чаго ўчот у гэтых советах пастаўлен нездавальняюча.

4. За ігнараванне справы ўчоту ў сельсоветах сакратару Навікоўскага сельсовета Кавалеўскаму і Ганькаўскага сельсовета Гайдукову абвясціць суровую вымову, папярэдзіўшы астатніх сакратароў сельсоветаў, што за становішча ўчоту ў сельсоветах яны нясуць персанальную адказнасць і за ігнараванне гэтай справы, у прыватнасці за несвоечасовае і неакуратнае вядзенне пагаспадарчых кніг, яны будуць прыцягвацца да судовай адказнасці.

5. Прапанаваць старшыням сельсоветаў заслухаць на пасяджэннях прэзідыумаў советаў да 1 мая даклады сакратароў сельсоветаў аб становішчы ўчоту і справаздачнасці ў сельсоветах.

6. Прапанаваць рэвізійным камісіям сельсоветаў пры ўсякім правядзенні рэвізій сельсоветаў, абавязкова рабіць праверку становішча ўчоту і справаздачнасці ў совеце.

7. Лічачы зусім недапушчальным з'явішчам маючыяся выпадкі здачы спраў сакратарамі сельсоветаў уноў прызначаным на гэтую пасаду без складання аб гэтым акта (Біклажанскі сельсовет), прапанаваць старшыням сельсоветаў няўхільна сачыць за тым, каб пры зменах сакратароў сельсоветаў справы сельсовета ўноў прызначанаму сакратару абавязкова здаваліся па акту, з падрабязным паказаннем у акце становішча ўчоту і справаздачнасці ў сельсовеце.

8. Унесці ў план пасяджэнняў прэзідыума райвыканкома даклады старшынь сельсоветаў аб становішчы ўчоту і справаздачнасці ў советах, з папярэднім абследваннем і з такім разлікам, каб за квартал былі заслуханы даклады не менш 3-х старшынь сельсоветаў.

Абследванне перад дакладам рабіць інспектуры наргасучоту.

9. Адзначаючы несвоечасовую перасылку раённай канторай Заготжывёла сельсоветам копій квітанцый па прыёмцы жывёлы, а сельскімі спажывецкімі таварыствамі—спісаў здатчыкаў малака, прапанаваць: загадчыку раённай к-ры Заготжывёла перасылаць сельсоветам копіі квітанцый па прыёмцы жывёлы кожную пяцідзёнку, а пры адсутнасці здачы мяса па сельсовету, паведамляць сельсовет, што за пяцідзёнку паступленняў на пункт Заготжывёлы не было, а сельскім спажывецкім таварыствам—не пазней пятага чысла кожнага месяца—прадстаўляць сельсоветам спісы здатчыкаў малака па форме № 41.

10. Прапанаваць райза зараз-жа разаслаць па сельсоветах журналы ўчоту сельгаскампаній па форме № 18, а таксама кнігі ўпаўнаважаных сельсовета для ўчоту хода сельгаскампаній па форме № 17.

11. Адзначаючы выпадкі патрабавання з боку паасобных сельсоветаў ад калгасаў штодзённых вестак аб ходзе падрыхтоўкі да вясенняга севу, прапанаваць старшыням сельсоветаў патрабаваць весткі ад калгасаў аб правядзенні featureрознага роду гаспадарча-палітычных кампаній толькі ў тэрміны, якія ўстаноўлены урадам.

12. Склікаць нараду сакратароў сельсоветаў у канцы красавіка месяца па пытанні аб становішчы ўчоту ў сельсоветах і правядзенні ўчоту пасеўных плошчаў у раёне.

Старшыня РВК *Князеў.*

Сакратар *Мардвінаў.*

---

## Выпіс

### з пратакола пасяджэння прэзідыума Рагачоўскага РВК

*ад 13 красавіка 1936 года*

Слухалі: Райінспектара наргасучоту т. Лібермана аб несвоечасовым прадстаўленні квартальнай адчотнасці рахункаводамі калгасаў.

Пастанавілі: За непрадстаўленне ў раінспектуру наргасучоту квартальнай адчотнасці рахункаводамі калгасаў „Камінтэрн“, Гарадзецкага сельсовета, і „Совет“, Прыбарскага сельсовета, аштрафаваць кожнага ў суме пяцьдзесят (50) руб.

За спазненне ў прадстаўленні квартальнай адчотнасці ферм рахункавода калгаса „Свярдлова“, Свяцкага сельсовета, прадставіўшага адчотнасць 11 красавіка замест устаноўленага тэрміна 3 красавіка—аштрафаваць на трыццаць (30) руб.

За няяўку на інструктаж па запаўненню квартальнай адчотнасці, што прывяло да зусім няправільнага запаўнення і прадстаўлення фіктыўных лічбаў у бланках квартальнай адчотнасці, рахункавода к-са „Чырвоны Гай“, Свяцкага сельсовета аштрафаваць на трыццаць (30) руб.

Абавязаць рэдактара газеты „Комунар“ надрукаваць гэту пастанову ў раённай газеце.

---

## Пастанова

### прэзідыума Старобінскага раённага выканаўчага камітэта

*ад 9 красавіка 1936 года*

**Аб непрадстаўленні інспектуры НГУ квартальнай справаздачы па КТФ калгасам „Рассвет“**

Заслухаўшы паведамленне райінспектара наргасучоту т. Цімончыка аб непрадстаўленні калгасам „Рассвет“, Лістападавіцкага сельсовета, устаноўленай, квартальнай справаздачы аб рабоце жывёлагадоўчых калгасных ферм (якая павінна была быць прадстаўлена к 3 числу гэтага месяца), што прывяло да зрыву складання раённай зводкі і прадстаўлення яе ва ўстаноўлены тэрмін у КНГУ БССР, прэзідыум раённага выканаўчага камітэта пастанаўляе:

1. На падставе пастановы СНК СССР ад 11/V-32 г. за непрадстаўленне справаздачы за I квартал аштрафаваць рахункавода калгаса „Рассвет“, Лістападавіцкага сельсовета, т. Лопана у суме 25 руб.

Указаць старшыні калгаса т. Лахаю на адсутнасць з яго боку нагляду за работай рахункавода.

2. Папярэдзіць усіх кіраўнікоў устаноў і арганізацый, старшынь калгасаў і ўчотна-бухгалтарскі персанал, што ў выпадку далейшых фактаў непрадстаўлення наргасучоту ўстаноўленых, згодна закона, справаздач і ўчотных матэрыялаў вінаватыя будуць прыцягвацца да судовай адказнасці.

3. Даручыць Лістападавіцкаму сельсовету спагнаць накладзены штраф з т. Лопана на працягу 7 дзён.

Пастанову гэту апублікаваць у друку.

Старшыня РВК *Краўцоў.*

Сакратар *Наумовіч.*

---

## Выпіска

### з пратакола № 78 пасяджэння прэзідыума Гарадокскага райвыканкома

*аб 3 красавіка 1936 г.*

Слухалі: Аб парушэнні справаздачнасці радам сельсоветаў і калгасаў (дакл. т. Аўдзей).

Пастанавілі: Не гледзячы на пастановы ЦК КП(б)Б і ўрокі вясенняй сяўбы 1935 г., калі мела месца прамое очкаўцірацельства з боку асобных сельсоветаў і калгасаў, на што прэзідыум РВК своечасова ўказаў сельсоветам, у раёне мае месца очкаўцірацельства і ў час вясенняга севу бягучага году (1936 г.), як напрыклад, т. Ісакаў нам. старшыні Першамайскага сельсовета, упаўнаважаны ў калгасе „Чырвоны Партызан“, на 6/V-36г. паказаў больш чым было пасеяна на 40 га. Калгас 1-га Мая, Вайханскага сельсовета, авансам уключыў у зводку 18 га аўсу, „Металіст“, Селішчанскага сельсовета, імя Сталіна, Селішчанскага сельсовета. Канчанскі сельсовет даў зводку на 5/V-36 г. на 28 га, у тым ліку лёну 335 га, а на 6/V-36 г. у зводцы паказана 559 га, у тым ліку лёну 169 га.

Пальмінскі сельсовет па калгасу „Чырвоны Перакоп“ выправіў зводку—замест 5 га выпраўлена 15 га, што з'яўляецца недапушчальным парушэннем справаздачнасці і прамым абманам дзяржавы.

Выходзячы з гэтага прызідыум РВК пастанаўляе:

1. Абгаварыць пытанне аб прыцягненні да адказнасці намесніка старшыні Першамайскага сельсовета т. Ісакава пасля сканчэння курсаў.

2. Запатрабаваць пісьмовае тлумачэнне ад старшынь Канчанскага і Маскаліняцкага сельсоветаў, пасля чаго мець аб іх суджэнне.

3. Папярэдзіць астатніх старшынь сельсоветаў і старшынь калгасаў, што яны нясуць персанальную адказнасць за правільнасць аперацыйных зводак у строга вызначаны ўрадам тэрмін і ў выпадку іх парушэння будуць прыцягвацца да крымінальнай адказнасці.

4. Даручыць інспектару НГУ т. Аўдзей справы аб парушэнні справаздачнасці неадкладна дакладваць прэзідыуму РВК для прыцягнення вінаватых да адказнасці.

---

## З а г а д

### па Бабруйскай інспектуры наргасучоту

*ад 28/V-1936 г.*

Праведзенай мною праверкай справы пярвічнага ўчоту ў Каменскім сельсовеце ўстаноўлена зусім дрэннае становішча гэтага ўчоту ў сельсовеце, што з'явілася вынікам адсутнасці ўсякага кантролю за ўчотам у Каменскім сельсовеце з боку ўчастковага інспектара наргасучоту т. К а н д р а т о в і ч а.

За адсутнасць усякага кантролю за становішчам пярвічнага ўчоту ў Каменскім сельсовоце ўчастковаму інспектару наргасучоту т. К а н д р а т о в і ч у абвяшчаю в ы м о в у.

Пытанне аб становішчы пярвічнага ўчоту ў Каменскім сельсовеце перадаць на разгляд прэзідыума РВК.

Папярэджваю ўсіх участковых інспектароў наргасучоту Бабруйскага раёна, што пры ўстанаўленні мною фактаў адсутнасці кантролю з іх боку за становішчам пярвічнага ўчоту ў сельсоветах, буду прымаць меры суровага ўздзейнічання, як за ігнараванне важнейшай работы органаў наргасучоту.

Райінспектар наргасучоту *Леўковіч.*

---

## П а с т а н о в а

### нарады Кіраўскай райінспектуры наргасучоту сумесна з участковымі інспектарамі

*ад 3 чэрвеня 1936 года*

Мы раённыя і ўчастковыя інспектары НГУ Кіраўскага раёна, абгаварыўшы соцдагавор, заключаны кіраўніцтвам НГУ БССР з Ленінградскай, Маскоўскай і Свярдлоўскай абласцямі, далучаемся да гэтага соцдагавору і абавязваемся: своечасова і добра-

якасна выконваць усе абавязацельствы па дагавору, якія датычацца раённага і ўчастковых інспектароў, у прыватнасці правесці падрыхтоўчыя работы да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва, учот пасеўных плошчаў і чэрвеньскі ўчот жывёлы на выдатна.

Адначасова выклікаем на соцспаборніцтва Бабруйскага райінспектара і ўчастковых інспектароў па ўсіх пунктах соцдагавору заключанага паміж КНГУ БССР і Ленінградскай, Маскоўскай і Свярдлоўскай абласцямі, якія датычацца раённых і ўчастковых інспектароў.

Райінспектар НГУ *Філончык.*

Участковыя інспектары: *Яскевіч.* *Казлоўскі.* *Чайка.*

---

## Учотнай інспекцыі КНГУ БССР

Абмеркаваўшы дагавор, заключаны КНГУ БССР з КНГУ Ленінградскай, Маскоўскай і Свярдлоўскай абласцямі, поўнасцю далучаемся да гэтага дагавору, і абавязваемся выканаць усе абавязацельствы па дагавору, якія датычацца раённых інспектур і выклікаем на соцспаборніцтва Камарынскую райінспектуру.

Райінспектар Лоеўскага раёна *Боцяноўскі.*

6 чэрвеня 1936 г.

---

## СПІС РАЙІНСПЕКТУР, ЯКІЯ ЎКЛЮЧЫЛІСЯ Ў СОЦСПАБОРНІЦТВА

| №№ п. п. | Уключыліся ў соцспаборніцтва | Выклікаем на соцспаборніцтва |
|---|---|---|
| 1 | Кіраўская | Бабруйскую |
| 2 | Лоеўская | Камарынскую |
| 3 | Грэская | Слуцкую |
| 4 | Мсціслаўская | Крычаўскую |
| 5 | Бабруйская | Магілёўскую |
| 6 | Буда-Кашалёўская | |
| 7 | Петрыкаўская | Мозырскую і Жыткавіцкую |
| 8 | Тураўская | Лельчыцкую і Жыткавіцк. |
| 9 | Нараўлянская | Мозырскую |
| 10 | Мозырская | Ельскую |

## Соцдагавор

25 мая 1936 г. я, участковы інспектар наргасучоту 1 участка Багушэўскага раёна Марціновіч Г. Ф., прабыўшы на 2-х месячных курсах пры КНГУ БССР, падвысіўшы тэарытычныя веды і асвоіўшы тэхніку работы ўчастковага інспектара, абавязваюся з яшчэ большай адданасцю скарыстаць атрыманыя веды на практычнай сваёй рабоце, у прыватнасці забяспечыць добраякаснае выкананне і перавыкананне штомесячнага плана работ па свайму ўчастку.

Улічваючы палітычна-гаспадарчую важнасць прадстаячых работ па ўчоту жывёлы, пасеўных плошчаў і інш. абавязваюся:

1. Правесці добраякасна ўчот пасеўных плошчаў і здаць увесь матэрыял у інспектуру наргасучоту не пазней 18 чэрвеня 1936 года.

2. Прыняць актыўны ўдзел у правядзенні чэрвеньскага ўчоту жывёлы, правесці добраякасна кантрольныя абходы не менш як у 2-х сельсоветах.

3. Ліквідаваць прарывы па вядзенню пярвічнага ўчоту у адстаючых сельсоветах свайго ўчастка.

4. Правесці праверку аператыўнай справаздачнасці па ўсіх сельсоветах і па 2-х калгасах у кожным сельсовеце аб ходзе вясенняга севу і пры выяўленні очкаўцірацельства перадаваць справу па належнасці для прыцягнення вінаватых да адказнасці.

5. Узмацніць барацьбу супроць парушэння ўстаноўленых форм справаздачнасці.

6. Добраякасна правесці квартальны ўчот прадукцыі жывёлагадоўлі па калгасных фермах, забяспечыўшы паўнату матэрыялаў.

7. На працягу ўсяго 1936 года весці неаслабна работу па бягучай рэгістрацыі будаўніцтва, дабіваючыся 100 проц. ахопу ўчотам будаўніцтва па свайму ўчастку.

8. Добраякасна правесці біялагічнае вымярэнне ўраджаю на корані і своечасова даслаць запоўненыя бланкі ў інспектуру наргасучоту па відах на ўраджай па 2-х калгасах свайго ўчастка.

9. У штодзеннай сваёй рабоце дабівацца своечасовага прадстаўлення матэрыялаў па ўчоту працы і зарплаты па МТС, соўгасах, установах і прадпрыемствах. Удасканаліць спіс культасветных устаноў.

10. Арганізаваць соцспаборніцтва паміж сакратарамі сельсоветаў на лепшую пастаноўку пярвічнага ўчоту.

11. Рацыянальна скарыстоўваць увесь свой рабочы час непасрэдна на сваім участку для хутчэйшага і добраякаснага выканання штомесячнага плана работы і выязджаць у райінспектуру толькі па выкліку райінспектара.

12. У штодзеннай сваёй рабоце аказваць дапамогу рахункаводам калгасаў у правільным вядзенні падвойнага ўчоту, а калгасам, якія яшчэ не перайшлі на падвойны ўчот, дапамагчы ў пераводзе іх на гэты ўчот.

Па ўсім вышэйадзначаным пунктам выклікаю на соцспаборніцтва ўчастковага інспектара 2 участка т. Хадзюкова Г.

Участковы інспектар НГУ
1 участка Марціновіч.

Выклік прымаю.

Участковы інспектар НГУ
2 ўчастка Хадзюкоў.

---

## Дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва

Я, участковы інспектар, Чырвонапольскага раёна, Мхініцкага ўчастка, Серакоў Д. М., абмеркаваўшы выклік участковага інспектара Нараўлянскага раёна Маразевіча на соцыялістычнае спаборніцтва, прымаю гэты выклік і абавязваюся ў сваёй практычнай рабоце на сваім участку выканаць наступнае:

1. Дабіцца вядзення на выдатна ўчоту па сельсоветах, калгасах і ўсіх арганізацыях участка ў 1936 г.
2. Наладзіць справаздачнасць усіх устаноў, арганізацый і калгасаў з тым, каб не было ні малейшых затрымак і спазненняў.
3. Сачыць і правяраць за правільнасцю ўсіх справаздачнасцей і не дапускаць спуску незаконных форм; адначасова выкрываць і прыцягваць да адказнасці асоб, вінаватых у гэтым.
4. Добрасумленна і своечасова выконваюць заданні свайго райінспектара.
5. Узяць пад спецыяльны нагляд 6 калгасаў, якія яшчэ не перайшлі на падвойную сістэму, дапамагчы ім пераключыцца і на працягу года дапамагаць у вядзенні рахункаводства.
6. Прымаць актыўны ўдзел ва ўсіх правадзімых паліткампаніях, як па лініі НГУ, так і па грамадскай.
7. Дабіцца вядзення на выдатна сваіх спраў, днеўніка, добрага памяшкання для работы, саблюдаючы поўнасцю правілы санітарыі і культуру і яшчэ лепш асвоіць тэхніку сваёй работы.

З свайго боку на соцыялістычнае спаборніцтва па гэтым пунктам выклікаю ўчастковых інспектароў Буда-Кашалёўскага і Чэрыкаўскага раёнаў.

Участковы інспектар НГУ Мхініцкага ўчастка
Чырвонапольскага раёна *Серакоў.*

---

## Участковаму інспектару Дзёрнаўскага ўчастка Нараўлянскага раёна т. Маразевічу

Ваш выклік на соцыялістычнае спаборніцтва цалкам прымаю і ўключаюся ў паход на лепшую пастаноўку ўчоту і справаздачнасці на сваім участку ў 1936 годзе, аб чым паведамляю Вас і КНГУ.

Участковы інспектар НГУ Клетнянскага ўчастка
Быхаўскага раёна *Басаў.*

---

# ПЛАН

## работ раённых і ўчастковых інспектур народна-гаспадарчага ўчоту на III квартал 1936 г.

| Работа інспектур | | Тэрмін правядзення работы |
|---|---|---|
| Участковай | Раённай | |
| 1 | 2 | 3 |
| | Складанне ітогаў чэрвеньскага ўчоту жывёлы і пасеўных плошчаў | З 1—10 ліпеня |
| Нагляд за відамі на ўраджай | Біялагічнае вымярэнне ўраджаю. а) зернавых, б) бульбы | Ліпень, жнівень, верасень |
| | **Па аддзелу прамысловасці** | |
| | 1. Дэкадныя весткі аб выкананні плана па валавой прадукцыі ў цэнах 1926/27 гг. | Кожныя 10 дзён |
| | 2. Месячныя справаздачы аб выкананні плана па валавой прадукцыі (па ф. аддзела бяг. учоту) | Штомесячна не пазней 5 числа |
| | **Па аддзелу працы** | |
| | 1. Квартальн. адчоты аб ліку фондаў зарплаты па фф. №№ 32, 74, 8 | Не пазней 10—13 числа месяца наступнага за сканчэннем квартала |
| | 2. Штомесячныя адчоты па працы па ф.ф. №№ 1, 4, 6, 6-а, 6-б. | Не пазней 10 числа за сканчэннем адч. месяца |
| | 3. Штомесячны ўчот персанала па полу і ўзросту ў прамысловасці і будаўніцтве ф.ф. №№ 3 і 4-б. | Таксама не пазней 15 числа |
| **Па секцыі бюджэтаў** | | |
| 1. Нагляд за штомесячн. абследваннем бюджэтаў калгаснікаў | — | — |
| 2. Бюджэты рабочых і служачых | | |

| Работа інспектур | | Тэрмін правядзення работы |
|---|---|---|
| Участковай | Раённай | |
| 1 | 2 | 3 |
| | **Па аддзелу гандля** | |
| | 1. Аб'ем грамадскага харчавання ў калгасах у лета 1936 г. (спецыяльнае абследванне праз участковыя інспектуры) | III квартал |
| | 2. Лік рынкаў у гарадах і раённых цэнтрах | Верасень |
| | 3. Сетка, прадукцыя і зварот грамадскага харчавання па самадзейным сталовым | III квартал |
| | **Па аддзелу насельніцтва** | |
| Праверка пастаноўкі рэгістрацыі актаў грамадзянскага становішча ў ЗАГСах, НКУС (тэрміны, якасць запаўнення), вядзенне дзеннікa па сельсоветам. | 1. Нагляд за своечасовым прадстаўленнем ведамствамі і арганізацыямі ў органы Наргасучоту наступнай справаздачнасці: | Штомесячна |
| | а) натуральны рух насельніцтва (нараджаемасць, смертнасць, шлюбы, разводы). | " |
| | б) механічны рух насельніцтва | " |
| | в) сетка і дзейнасць устаноў аховы здароўя | " |
| Праверка за адсылкай сельсаветамі актаў грамадзянскага становішча, праверка якасці запоўненых бланкаў | 2. Атрыманне адрасных лістоў аб механічным руху насельніцтва ад органаў міліцыі, складанне раённай зводкі і адсылка матэрыялаў у КНГУ | " |
| Праверка своечасовасці прадстаўлення ўстановамі аховы здароўя месячных і квартальных справаздач і і кантроль іх якасці. Праверка пастаноўкі і вядзення ўстановамі аховы здароўя рэгістрацыі захворваемасці. | 3. Нагляд за своечасовым прадстаўленнем Райздравам у НКАховы Здароўя і іншымі арганізацыямі, маючымі ўстановы аховы здароўя, у рэспубліканскія органы бягучай справаздачнасці, кантроль паўнаты і якасці. Праверка пастаноўкі і вядзення ўстановамі аховы здароўя рэгістрацыі захворваемасці | " |

| Работа інспектур | | Тэрмін правядзення работы |
|---|---|---|
| Участковай | Раённай | |
| 1 | 2 | 3 |
| | 1. Падрыхтоўка да Усесаюзнага перапісу насельніцтва | |
| | а) складанне, капіроўка, | 1 ліпеня |
| | б) выверка, нанясенне новых пунктаў | 15 жніўня |
| | 2. Планы гарадоў | |
| | а) першая выверка, | 1 жніўня |
| | б) канчатковая выверка | 1 лістапада |
| | 3. Спісы прадпрыемстваў і ўстаноў | |
| | а) складанне, | 15 верасня |
| | б) выверка | 10 кастрычніка |

**Па аддзелу бягучай статыстыкі**

| | | |
|---|---|---|
| | 1. Высылка выпісак з кнігі „Асноўных паказчыкаў р-на" | Штомесячна |
| | 2. Выбарачнае абследванне якасці работ школ усеагульнага навучання | „ |
| | 3. Поўгадавы адчот раённых шматтыражак | „ |
| | 4. Кантрольна-спісачны ўчот летніх дзіцячых пляцовак і лагераў | „ |

**Па аддзелу будаўніцтва і комунальнай гаспадаркі**

| | | |
|---|---|---|
| | 1. Бягучы ўчот выканання плана капітальных работ і ўкладанняў у 1936 г. (ф. 13). | Штомесячна 28-га наступнага за справаздачн. месяцам |
| | 2. Забеспячэнне будаўніцтва будматэрыяламі (2. 2-б) | „ |
| | 3. Забеспячэнне буд-ва рабочай сілай. | „ |
| | 4. Выкарыстанне парка будаўнічых машын і механізмаў | „ |
| | 5. Фінансаванне капіталаўкладанняў (ф. 13). | „ |

| Работа інспектур | | Тэрмін правядзення работы |
|---|---|---|
| Участковай | Раённай | |
| 1 | 2 | 3 |
| | **Па комунальнай гаспадарцы** | |
| 1. Складанне пашпартоў на гарады | Менская, Віцебская, Гомельская, Магілеўская, Бабруйская Барысаўская, Аршанская—інспектуры НГУ | 15 ліпеня |
| 2. Увод у эксплаатацыю новага жыл. фонда | Усе гарады і паселішчы гарадскога тыпу.—інспектуры НГУ | 12 числа наступнага за справаздачным кварт. |
| 3. Весткі аб уводзе ў эксплаатацыю аб'ектаў буд-ва ком. органаў | Менск, Віцебск, Гомель, Полацк, Орша, Магілеў, Мозыр, Слуцк, Лепель, Бабруйск, Барысаў—інспектуры НГУ | За 1 паўгоддзе 10 ліпеня у ЦУНХУ |
| 4. Бягучы ўчот выканання гадавога плана работ за 1-е паўгоддзе па ком. прадпрыемствам | Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Бабруйск, Орша, Мазыр, Полацк—інспектуры праз горкомгас | 7-га ліпеня |
| | **Па ўчоту будаўніцтва** | |
| 1. Зводка аб ходзе школьнага буд-ва па БССР (зводка па ф. 13) | 36 школ—Асіпавічы, Лепель, Пухавічы, гор. Менск, Бабруйск, Віцебск, Магілеў, Гомель, Слуцк, Рэчыца, Мозыр Полацк, Орша, Барысаў, Добруш, Менскі р-н | 20 числа наступнага за справаздачным месяцам |
| 2. Дынаміка элементаў каштоўнасці буд-ва 1936 г. | Менск, Бабруйск, Гомель, Віцебск, Магілеў, Барысаў, Крычаў, Добруш, Рэчыца, Орша, Шклоў, Смалявічы, Полацк, Асіпавічы, Уваравічы | Праз 45 дзён пасля справаздачнага квартала |
| 3. Бягучая рэгістрацыя пачатка буд-ва і зносу ў 1936 г. па ўсім сектарам і закончанага буд-ва па калгасам | Участковыя інспектары ў раінспектары па пачаткаму буд-ву на працягу 5 дзён пасля пачатку буд-ва, па законч. буд-ву (калгаснаму і прыватнаму) на працягу 20-ці дзён пасля сканчэння буд-ва | Ліпень—верасень |
| 4. Абследванне індывідуальнага буд-ва калгаснікаў у сельскіх мясцовасцях | Участковыя і раённыя інспектуры | Ліпень |



